# Самапомач Гаспадарскае

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 21 (74).
Год VI.
Вільня.
25.XII.1937 г.

РЭДАКЦЫЯ
і
АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная
№ 1.
Рэдактар прыймае
ад гадз. 13 да 15 ран.

# Гаспадарская нарада ў Вільні

Як мы паведамлялі, 11 г. м. ў Вільні адбылася вялікая гаспадарская нарада, у якой, як пісалі газэты, брала ўчасьце каля 200 чалавек. Аб учасьці ў гэтай нарадзе кагосьці з беларусаў і наагул непалякоў, нічога ня было чуваць.

Сабраныя на нараду гаварылі аб тым, як падагнаць наперад усё гаспадарскае жыцьцё нашага Краю, г. зн. Віленшчыны, Горадзеншчыны, Наваградчыны і Палесься — абшару абнятага ўплывамі Віленскіх Палатаў: Земляробскай, Прамыслова-Гандлёвай і Рамесьніцкай. З гэтага відаць так-жа, што прадметам нарадаў было ня толькі земляробства, але так-жа промысел, гандаль і рамясло. Гэтулькі аб нарадзе агулам.

Цікавей было-б аднак ведаць, што іменна на гэтай нарадзе гаварылі і што пастанавілі. Аб гэтым, паўтараем, можам сказаць толькі тое, што так ці гэтак дасталася ўжо ў польскія газэты.

Патрэбы земляробства на нарадзе прадстаўляліся ў двух кірунках: 1. у кірунку патрэбы ўкладу грошаў у розныя гаспадарскія прадпрыемствы, якія мусілі-б перарабляць прадукты земляробскай вытворчасьці і 2. у кірунку направы абароту (гандлю) гэтымі-ж прадуктамі. У справе першай некаторыя прысутныя паказвалі на адсталасьць нашых зямель у параўнаньні з землямі цэнтральнай і захадняй Польшчы, дзе ёсьць даволі капіталаў прыватных і куды сам урад яшчэ з скарбовых грошаў укладае вялізарныя сумы (С. О. — S.). Пры гэткім стане рэчаў марнуецца ў нас на месцы многа прадуктаў, надбытак-жа працоўных рук церпіць ад безработцьця.

Гэткіх прадуктаў да фабрычнай перароблі на месцы ёсьць у нас вельмі шмат. Даволі ўспомніць тут для прыкладу хоць-бы такія грыбы, лясныя ягады, садовіна, рыба, мяса, малако, а перад усім наш лён і — бульба. Усё гэта толькі малая часьць выраблянага ў нас сырца, які мог-бы быць крыніцаю нашага багацьця. Некаторыя з прысутных паказвалі асабліва на канешнасьць разбудовы ў нас прамысловай перароблі бульбы: на сьпірт і крахмал.

Падсумоўуючы ўсе пляны і стараньні нарады пасол Ул. Каміньскі (асаднік) падчыркнуў, што перароблены ў мясцовых фабрыках сырэц будзе вязаць наш вокруг з агульнапольскім экспортам. Гэта былі дамаганьні.

Вузейшымі аказаліся абяцанкі. І так міністр земляробства Юл. Панятоўскі, падчыркнуўшы, што ўрадавыя кругі на нашых абшарах прадбачаць перад усім інвэстыцыю (уклад грошаў) у праводжаньне комасацыі (хутарызацыі) і мэліорацыі, выткнуў Віленшчыне, што яна лішне памалу да гэтай комасацыі бярэцца, нават у параўнаньні з суседняй Наваградчынай. З прысутных-жа на конфэрэнцыі ніхто не адазваўся, чаму так ёсьць: мусіць гэтыя паны ня бачаць ці бачачы, не разумеюць, што сучасная такса комасацыйная не пад сілу ўласьнікам бедных грунтоў Віленшчыны, не гаворачы ўжо аб тым, што комасацыя бяз прырэзкі гэта ў нашых варунках часта апошні гвозд у гаспадарскую труну.

Зімной лазьняй на распаленыя галовы была і заява „мерадайных чыньнікаў" аб тым, што будова вялікай лядоўні ў Вільні „тымчасам" мусіць так-жа... стрымацца. Чаму? Аб гэтым глуха.

Вот і па нарадах. Учасьнікі разьехаліся, а нам—жыць трэба. Адбытая нарада ўзбагаціла нашага беларускага селяніна йшчэ на адзін доказ, што самымі толькі славамі ён сыт ня будзе. Што-ж да нас, дык мы сваю думку выказвалі ўжо ня раз і тут яе ахвотна паўторым: калі дзяржава памагае будаваць дабрабыт сялянам спад Сандоміра й Пшэворска, дык ня меншае права на гэту дапамогу мае і селянін спад Вільні, Наваградка ці Баранавіч. Не забывайма аднак, што сапраўдны дабрабыт дапамогамі ня будуецца: ён паўстае з вольнай, вонкавай „апекай" неабмежаванае, дзейнасьці самых зацікаўленых. Дапамогі-ж ня толькі не гадуюць у людзёх сапраўды гаспадарскіх вартасьцяў, але наадварот, дэзорганізуюць усякі здаровы ў гэтым кірунку пачын.

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## Паступовы гаспадар.

Прыглядаючыся да ўзросту паступу ў земляробстве ня цяжка сьцьвердзіць, што ўдача ў гаспадарцы залежа ад самога чалавека, які кіруе гаспадаркай. Пэўна-ж вялікае значэньне маюць варункі матар'яльныя, якія могуць прысьпяшыць поступ. Мова тут перад усім аб варунках прыродных, напр. гатунак глебы, блізкасьць рынку і г.п. Аднак прыметы „асабістыя“ самага гаспадара маюць першараднае значэньне дзеля матар'яльнага і культурнага падняцьця гаспадаркі.

Якія-ж гэта „прыметы“ чалавека здабытыя гаспадарскім выхаваньнем? Якія прыметы гаспадара паступовага? Перад усім гаспадар такі думкаю сваей патрапіць абняць цэласьць гаспадарскага жыцьця. Ён разумее ўсё, што ў гаспадарцы робіцца, здае сабе справу, што паміж асобнымі галінамі грамадзкай гаспадаркі ёсьць сьціслая залежнасьць і лучнасьць. Разумее ён, што справаў земляробскіх ня можна разглядаць асобна ад усяго гаспадарскага жыцьця, што справы гэтыя трэба разглядаць злучна з пытаньнем промыслу, рамясла, шляхоў спалучэньня (камунікацыі) і г.п.

Паступовы гаспадар адзначаецца тым, што думкі ягоныя аб гаспадарцы не агранічаюцца ў собскім панадворку, але выходзяць паза яго, сягаюць глыбей.

Паступовы гаспадар разумее, што выраблены ім тавар тады толькі будзе мець купцоў, калі будзе высокай якасьці. Ён цэніць належна роль рынку як краёвага так і міжнароднага.

Паступовы гаспадар, хочучы мець больш карысьці з свае гаспадаркі, разумна яе арганізуе, стараючыся ўсімі сіламі палепшыць способы прадукцыі. У такой гаспадарцы разумна ўжываюцца штучныя ўгнаеньні, палепшаецца інвэнтар жывы і мёртвы, мэліоруецца поле, сенажаці, выбіраецца добрае насеньне, зерне і ўводзіцца адпаведны севазварот.

Паступовы гаспадар гаспадарыць з алоўкам у руцэ. Састаўляе ён свае прыходы і расходы, каб ня мець страты. А ў плянаваньні выдаткаў на першае месца высувае расходы на заспакаеньне патрэбаў найважнейшых у гаспадарцы.

Паступовы гаспадар стараецца так сарганізаваць сваю гаспадарку, каб яна стэлася асяродкам, скуль выходзіць поступ. Стасуе ён здабычы навукі, каб палепшыць вытворчасьць у сваей гаспадарцы.

Вось прыклад „паступовага гаспадара.“ Пэўна-ж, некаторыя прыметы тут ня ўспомнены, але ўспомнены найважнейшыя. Ці кожны чалавек можа стацца гаспадаром „паступовым“ у разуменьні вышэй апісаным? Напэўна можа. Кожны земляроб, падыймаючы ўверх сваю гаспадарку, можа стацца крыніцай поступу ў граніцах сваіх магчымасьцяў. Канешна патрэбны тут толькі пэўныя варункі псыхолёгічныя. Такі земляроб павінен выказацца любоўю да працы і мець на ўсёсвой „гаспадарскі“ розум. Павінен ён памятаць, што перш чым увесьці ў сваю гаспадарку карысныя зьмены, трэба ўсьведаміць сабе недастаткі гэтай гаспадаркі. Акрамя таго ня кожную „навіну“ можна прыняць, не заўсяды тэхнічная здабыча можа падходзіць да данае гаспадаркі. Аб усім гэтым павінна вырашыць інтэлігенцыя гаспадара-земляроба і ягоны творчы крытыцызм.

Іншай канешнай для паступовага земляроба прыметай ёсьць вытрываласьць у праводжаньні абдуманых пастановаў. Распачатую працу трэба кончыць.

Урэшце дзеля поступу ў гаспадарцы важнай ёсьць рэчай прадпрыемчасьць чалавека, ягоная энэргія, а нават нахіл да рызыка. Бяз гэтых прыметаў трудна думаць аб нейкіх паважнейшых зьменах у гаспадарчым палажэньні чалавека. Заўсяды аднак мусіць быць захавана мера і асьцярожнасьць.

Гэтыя разважаньні, хоць і ня вычэрпываюць усяго пытаньня, вядуць да выснаўку, што кожны чалавек можа стацца „паступовым гаспадаром.“ Але ня толькі можа стацца. Кожны земляроб у нашых варунках гаспадарскага недаразьвіцьця мусіць замяніцца ў перадавіка гаспадарскага поступу.

**Увага! Увага!**

## Зьмена адрэсу!

Ад 10-га сьнежня сёлета рэдакцыя **«САМАПОМАЧЫ»** перанесена з дагэтуляшняга памешканьня ў памешканьне новае і месьціцца пры вуліцы **Завальнай 1.** Туды трэба і накіроўваць усякую карэспандэнцыю.

Інж. Ад. Клімовіч.

# Асновы земляробскай эканомікі.

15)

### Як весьці простую рахунковасьць.

#### I. Сьпіс маемасьці (інвэнтура).

Усякі запіс пры рахунковасьці азначае зьмену стану маемасьці, якая або павялічваецца або зьмяншаецца. Перш аднак, як запісываць гэтыя зьмены, трэба мець сьпісаную, падрахаваную і ацэненую ўсю гаспадарскую маемасьць. Гэткі сьпіс маемасьці называецца *інвэнтурай*. Аснаўным правілам пры састаўляньні інвэнтуры ёсьць ацэньваньне маемасьці пры пачатку і пры канцы году паводле таго самага ключа. Інакш — раз могуць выйсьці беспадстаўныя „зыскі“, а другі раз — такія самыя „страты“. Ад таго-ж, як высака пры састаўляньні інвэнтуры ацэньваецца ўся маемасьць, залежа толькі вышыня апрацэнтаваньня актыўнага капіталу гаспадаркі, але зусім не залежа вышыня чыстага прыбытку: чым ніжэй ацэнена маемасьць, тым вышэйшае толькі выпадзе апрацэнтаваньне, і наадварот, пры ацэнцы вышэйшай апрацэнтаваньне выпадзе ніжэйшае.

Найбольш адпаведнай парой да састаўляньня такой інвэнтуры ёсьць канец м-ца чэрвеня і пачатак ліпня. У гэту пару найлягчэй усё зрахаваць, бо запасы „старога“ году да гэтай пары звычайна бываюць ужо малыя (або іх зусім няма), а новы ўраджай яшчэ бывае ў полі. Падлічэньне-ж запасаў жывёлагадоўлі ў кожную пару году звычайна не прадстаўляе такіх хлапотаў, як падлічэньне запасаў прадукцыі расьліннай. Коратка кажучы гаспадарскі год у земляробстве найвыгадней рахаваць ад 1-га ліпня аднаго году ўключна да 30-га чэрвеня наступнага году.

Каб лягчэй усё ў гэты сьпіс (інвэнтуру) сабраць і каб у гатовым ужо сьпісе хутчэй на сваім месцы ўсё знайсьці, прынята ўсю маемасьць такой дробнай гаспадаркі дзяліць на гэткія тры часьці:

I. Маемасьць земляробская (капітал грунту — асобна ўласнага і асобна арэндаванага—, мэліорацыйі, капіталы: будынкаў, расьлін, жывёлы, машынаў, снасьці і капітал абаротны);

II. Маемасьць прыватная (сталы, лавы, зэдлі й іншая мэбэль у прыватнай гаспадаровай хаце, вопратка, хусьце, боты, ровар, радіоапарат і іншыя прадметы дзеля прыватнага ўжытку);

III. Маемасьць пабочная (ашчаднасьці ў

# Цяляты ўзімку.

Цяляты народжаныя ўзімку ці познай восеньню гэта найлепшы тавар на плем. Людзі здаўна за ўважылі, што цяляты гэткія бываюць найсільнейшыя і найздаравейшыя, найлепш разьвітыя, чаму спрыяе сталы рух каровы на пасьбішчы на сьвежым паветры. А паша на пасьбішчы найлепш адпавядае скацiннай натуры, як найбольш зьліжаная да варункаў, у каторых яна знаходзілася ў стане дзікім, прад асваеньнем. Узімку, калі няма працы ў полі, найлепш заняцца гадоўляй маладняка, які вымагае апекі і кіраўніцтва.

Ня трэба аднак „перасаліваць", бо як недастатак усякай апекі, так і лішняя апека шкодна адбіваецца на маладой жывёле. Шкодным ёсьць галадаваньне цяляці, але і перапіханьне ягонага жывата таксама ня выйдзе на здароўе. Трыманьне цяляці ў вільгаці на незьмянянай падсьцілцы ёсьць аднолькава шкоднае, як шкоднае ёсьць цацканьне з цялём „як з яйком". Шкоднае гэта перад усім для людзей, якія змушаны дыхаць такім паветрам прасычаным гноем. Ня трэба дадаваць, што утрыманьне чыстаты ў хаце, у каторай разам з жывёлай жывуць людзі, немагчымае.

Але і жывёле ня выходзіць гэта на карысьць. Трэба памятаць, што наша хатняя жывёла паходзіць ад зьвяроў дзікіх, якія ўсё жыцьцё правялі пад голым небам. Усё што горшае, гінула, а пры жыцьці аставаліся толькі штукі сільнейшыя і здаравейшыя. Дзеля таго няма ніякай патрэбы ня толькі трымаць цялё ў хаце, але наагул лішне старацца аб цёплы для яго хлеў. Цялё дасканальна можа прабываць нават у досыць сьцюдзеным памешканьні, каб было толькі даволі сухой падсьцілкі і каб цялё не галадавала.

Наадварот, скаціну трэба ад раньняй моладасьці прызвычайваць да частых зьменаў тэмпэратуры, да холаду і нават да марозу. Калі прыймем пад увагу, што ўзімку паветра бывае найчысьцейшым, бо мае найменш шкодных бактэрыяў, а таксама што на дварэ яно чысьцейшае чым у хляве, дзе прасякнута бывае смуродам, парай, брудам і пылам, дык зразумеем, чаму прабываньне жывёлы пад адкрытым небам ёсьць здаравейшае, чымся ў будынку.

Дзеля ўсяго гэтага колькідзённае ўжо цялё трэба выпускаць на сьвежае паветра, спачатку на колькінаццаць мінут, а па 10—15 днях — на колькі гадзін у дзень. Найлепш было-б, каб у памяшчэньні для цялят дзьверы цэлы дзень былі адчынены на паветку. Цяляты тады самі выходзяць на вольнае паветра, як толькі гэтага зажадаюць. Ня трэба баяцца, каб гэта магло цялятам зашкодзіць, бо доўгая зімовая поўсьць даволі добра бароніць яго ад зімна. Ад доўгага прабываньня на сьвежым паветры цялё гартуецца, мае лепшы апэтыт, бывае жывейшым і здаравейшым. Лішняе хаваньне прад зімном вядзе да таго, што цяляты становяцца лішне далікатнымі (кволымі), абышто ім шкодзіць, а калі хоць на хвільку знойдуцца ў варунках менш прыязных, дык лёгка паддаюцца розным хваробам. Гэтыя надмерныя пяшчоты бывдла ў моладасьці бываюць найчасьцейшай прычынай западаньня на нявылячальныя сухоты, якія па таго ўшчэ лёгка пераносяцца на іншыя штукі, як маладыя, так і старэйшыя.

Зімовыя цяляты могуць на вясну ўжо йсьці з скацінай на пасту. Але трэба памятаць, што маладняк расьце да 3-х гадоў, трэба дзеля таго запэўніць яму здаровае разьвіцьцё. Гэта значэ, што для цяляці будзе найлепш, калі яно будзе як найчасьцей прабываць на вольным паветры. Калі будаўляныя й гаспадарскія варункі пазваляюць, дык цялё ўжо ад канца м-ца красавіка дзень і ноч можа аставацца пад крытай паветкай. Можа гэта быць звычайнае стрэшка на слупкох, якая бараніла-б ад сонца і дажджу, сьвежае ж паветра, якое даходзіла-б з усіх бакоў, было-б напэўна здаравейшым, чым паветра ў хляве. Калі праз дзень цяляты бываюць на пасьбішчы, дык на ноч іх трэба заганяць пад паветку. Цяляты загартаваныя вырастуць на сільныя і здаровыя каровы, адпорныя на розныя хваробы, а перад усім на сухоты.

*З. К.*

# Колька у коняў

Колька ёсьць хваробай незаразьлівай. Гэта ёсьць хвароба страватраўчых органаў, прычына якой можа быць вельмі розная. Можа гэта быць напр. усяляк сапсаваная паша: гнілая ці кепска спараная ці неабмытая з балота бульба, тухлае, забалочанае сена, сухія вотрубы (скаціна любіць вотрубы сухія, коньжа — не!), нявысушаны авёс, паеньне каня сьцюдзёнай вадой і г.п. Гэта толькі часьць магчымых прычынаў колькаў. Большая частка іх паказвае, што прычынай колькі бывае сапсутая, сплесьніўшая, забруджаная паша. Дзеля гэтага захаваньне чыстаты пры кармленьні каня наагул, а асабліва ўтрыманьне ў парадку жлабоў пры кармленьні паранай бульбай, прад тым старан

---

банку, цэнныя паперы, кузьня, цагельня, швальня, гандлёвы сад і іншыя прадпрыемствы незалежныя ад гаспадаркі землеробскай).

Да сьпісываньня інвэнтуры, як і да ўсей простай землеробскай рахунковасьці наагул служаць адумысловыя бляанкеты (аркушы), узор якіх будзе пададзены далей. Тут з канешнасьці займемся толькі агульным тлумачэньнем, як гэтымі бляанкетамі карыстацца.

Насамперш, як ужо зазначана, трэба ўсю маемасьць сьпісаць, падрахаваць і ацаніць. Аб агульнай ацэнцы капіталаў землеробскай гаспадаркі гаварылі мы ўжо перш *(бач. 14—23)*. Тут паўторым толькі тыя мясцы, якія патрэбны для сьпісаньня інвэнтуры. І так, сьпісваючы

**Капітал грунту** трэба перад усім усе кускі грунту зьмерыць і запісаць паводле гатунку: асобна ворнае поле, асобна агароды, сады, сенажаці, пасьбішчы і г. д., выражаючы ўсё гэта ў гэктарах, арах і квадр. мэтрах.*) Калі ўсё гэта гатова, тады ўпісваем у 1-шую рубрыку (прадмет маемасьці) па парадку: поле (ральля), сад, сенажаць і г. д., а на гэтай-жа лініі ў рубрыцы 2-ой (колькі?), насупраць кожнага гатунку грунту ўстаўляем дакладна зьмераную плошчу кожнага з гэтых гатункаў грунту, напр 2 га, 70а 97 кв. м. У наступнай 3-цяй рубрыцы (цана) ставім вартасьць кожнага гатунку грунту, але не ўсяго, які ў гаспадарцы ёсьць, а толькі „цану за адзінку", г. зн. за гэктар. Памножыўшы цяпер цану адзінкі грунту (гэктара) на ягоны абшар, атрымаем „суму" (рубрыка 4-тая). У гэту рубрыку (клетку) выносім папарадку ўсе вартасьці капіталу грунту (ральля, сад, сенажаць і г. д.), якія пры канцы падсумоўваем (складаем) і агульную суму выносім у рубрыку 5-тую („агулам").

Арэндаванае поле (як і ўсякую іншую маемасьць) ацэніваць ня трэба: такое поле даволі толькі зьмерыць і ў адпаведнае месца запісаць.

**Капітал мэліорацыяў.** Складовыя сучасткі гэтага капіталу ацэньваюцца паводле коштаў залажэньня мэліорацыі. Кожны год вартасьць капіталу мэліорацыяў можна абніжаць на 3—4 прац., рахуючы, што раз заложаныя і старанна дагледаныя мэліорацыйныя будовы могуць вытрымаць праз 25—30 гадоў.

Таксама паводле коштаў будовы найчасьцей ацэньваецца

**Капітал будынкаў,** толькі іншы пры гэтым працэнт адпадае на амортызацыю. Гэты працэнт аблічаем гэтак: у прыблізнасьці адгадваем колькі год можа

*) гэктар (га) мае 100 араў(а) або 10.000 квадратных мэтраў (кв. м.); ар мае 100 квадр. мэтраў.

на вымытай у вадзе, гэта найлепшы спосаб усьцерагчыся колькаў.

Конь, які захварэў на кольку, перастае есьці, аглядаецца на брух, капае нагамі, часта кладзецца і качаецца з сільных боляў. Часта кал не адходзіць (затрыманьне), а дзеля таго што боль перанесьціся можа і на іншыя органы, напр. на мачавы пузыр, дык выдзяляньне мачы таксама ўстрымліваецца. Пры сільнай кольцы, могуць настаць комплікацыі і тады конь можа згінуць у працягу колькіх гадзін.

Калі конь не аддае калу, трэба яго выбраць рукой і апрача таго зрабіць леватыву з 5—6 літраў летняй вады з мылам, а апрача таго даць у нутро ½—1 клг. рыцыновага алею з 400 гр. гляўбэрскай солі, распушчанай у літры вады, з дадаткам малога кусочка мыла і 20 грам алёэсу. Раствор гэты трэба добра вымешаць. Брух трэба скрапіць тэрпэнтынай і адначасна з абеіх старон моцна націраць вехцямі з сьвежай цьвёрдай саломы.

Калі конь не аддае мачы, дык праз цэўку мачавую трэба ўпусьціць катэтэр (спэцыяльная трубкавая помпка) аж у мачавы пузыр. Рабіць гэта павінны двое людзей: адзін асьцярожна ўводзіць у цэўку намазаны вазэлінай катэтэр, пасуваючы яго што раз далей (глыбей), а другі кладзе руку ніжэй алходнай кішкі і калі пачуе пад рукой катэтэр, лёгка націскае ягоны канец у бок конскай галавы, нахіляючы яго да мачавога пузыра. Як толькі катэтэр дойдзе да мачавога пузыра зараз-жа выцякае моч. Выпусьціўшы ўсю моч трэба катэтэр заразжа выбраць. Калі няма пад рукой катэтэру, дык радзяць узяць жменю зельля пахучай лебяды (чарнабыль, *chenopodium botryx*), запарыць літрам варатку (кіпятку), працадзіць па 15 мінутах і як астыне, уліць з бутэлькі хвораму каню ўзубы.

Ужо сказана было, што пры кольцы конь адчувае сільны боль. Дзеля ўспакаеньня яго даецца каню наліўка 40 грам опіум з паўлітрам вады, а да таго на брух робіцца цёплы кампрэс.

Калі паміма лекаў на прачышчэньне кал усё-ж не адходзіць, трэба па пэўным часе ўзноў выгортываць яго рукой. Калі і гэта не памагае і конь ня чысьціцца, а прылажыўшы вуха да бруха ня чуваць у ім бурчэньня, дык на шыі яго робіцца ўкол, куды залівэецца вельмі сільнае лякарства *арэколіну*. Рабіць гэта аднак можа толькі лекар — вэтэрынар. Прачышчэньне пасьля гэтага паступае звычайна па колькінаццаці мінутах, але калі жалудак конскі лішне перапханы або асабліва калі конь мае слабае сэрца, дык па такім уколе можа згінуць у працягу колькіх мінут. З гэтай прычыны арэколіну можна ставаць толькі за парадай лекара.

Дзеля таго што прычыны колькі могуць быць самыя разнаякія, таму трудна адгадаць чым такая хвароба ў кожным асобным выпадку можа кончыцца. Калі прычынай хваробы ёсьць страватраўчы апарат, дык хуткім стараньнем удаецца каня ўратаваць. **Паз.**

**Два гады ўжо выходзяць „Wiadomości Białoruskie,“**
якія стала інфармуюць польскую прэсу і ўсе найвышэйшыя ўстановы ў Польшчы аб беларускім жыцьці, аб нашай долі і нядолі. Акрамя падзеяў агульна беларускіх, „Wiad. Biał.“ зьмяшчаюць і правераныя матарыялы з жыцьця нашай вёскі. Дык пішэце ў рэд. „Wiad. Białoruskich“ (Вільня, Завальная 1) карэспандэнцыі аб цікавых здарэньнях з беларускага жыцьця ў Вашай ваколіцы. Пісаць можна пабеларуску і папольску.
Пробныя нумары не высылаюцца.

## Новы спосаб шчапленьня дрэваў.

У Саветах ад нядаўна пачалі шчапіць дрэўцы вочкамі, загадзя зрэзанымі ў большым ліку і старанна перахоўванымі. Каб зрэзаныя вочкі не псаваліся, прыгатаўляецца ў невялікім чыстым начыньні 5 прац. раствор цукру*) і ў яго зразу ўкідваюцца зрэзаныя вочкі. Гэтак можна прыгатаваць загадзя колькісот вочак.

Прад выходам да шчапеньня выймаецца адгаведная колькасьць вочкаў з засалоджанага раствору і складаецца ў начыньне другое, якое прыкрываецца чыстай тканіной. Кожнае такое вочка прышчэпліваецца за кару і абвязваецца таксама, як гэта рабіцца пры звычайным шчапленьні на вочка.

Гэты новы спосаб шчапленьня вельмі скоры і асабліва цэнны гадчас сушы. Ня трэба пры гэтым цягаць з сабой скрынкі са зрэзамі, ды ня трэба таксама зразаць за кожным разам з іх вочкі да шчапленьня.

Практыка ў Саветах паказала, што шчэпленыя гэтым спосабам дрэўцы прыжылі там блізу ў ста працэнтах.

Праз некалькі гадоў я выпрабавала гэты спосаб ў сваей школцы ў Малых Алашках. Вочкі мачыпа ў асалоджаным растворы праз ½, 1, 2, 3, 4 і 5 гадзін. Усе вочкі прыняліся блізу ў 100 працэнтах, значна лепш як спосабам звычайным. А ў дадатку праца йшла вельмі хутка.

*Людміла Сікора.*

„Tyg. Roln.“

*) 5 dk. цукру на літр вады.

трываць будынак. Тады 100 дзелім на гэту лічбу і атрымоўвуем шуканы працэнт. Напр. з добрага дрэва пастаўленая хата мае вытрываць, скажам, 40 гадоў: дзелім 100 на 40 (100:40) і атрымоўвуем 2½. Гэта й будзе працэнт дзеля амортызацыі коштаў будовы гэтай хаты. Прыняць пры гэтым трэба пад увагу, што жылыя будынкі трываюць даўжэй, чымся гэтак званыя будынкі гаспадарскія, як хлявы, пуні, гумны і г. д. — Пры запісваньні капіталу будынкаў у інвэнтуру асобна запісваюцца будынкі жылыя, асобна гаспадарскія, асобна платы, парканы і г. зв. будынкі нізкія, як гнойнішчы, басэйны на гнойную жыжку і г д.

**Капітал расьлінаў.** Маладыя пладовыя (фруктовыя) дрэўцы ацэньваюцца паводле рыначнай вартасьці самых ушчэпаў (або пасеўнага насеньня), да чаго далічаюцца йшчэ кошты пасадкі, гнаеньня, дагляду, апрэцэнтаваньне ўложанага капіталу і г. д. Для дробна гаспадарскіх варункаў даволі асобна запісаць дрэўцы, якія йшчэ ня родзяць, асобна — якія родзяць і асобна дрэвы няродзячыя і дзікія, якія ацэньваюцца паводле вартасьці дроў на апал. Насеньне і штучныя гнаі, ужытыя на засееныя ўжо засевы, ацэньваюцца паводле цаны рыначнай. Гной натуральны (хляўны) ацэньваецца вартасьцю збожа (гл. бач. 39—40).

**Капітал жывёлы.** Пры ацэньваньні жывёлы трэба трымацца цаны рынача ай, хутчэй меншай як большай. Коні й хатняя птушка ацэньваюцца ад штукі, скаціна й сьвіні — на вагу (множачы цану аднаго кілеграма на вагу дадзенай жывёлы, выражаную ў кілеграмах. Вартасьць каня да 8—10 году звычайна падыймаецца, а ад гэтага часу опускаецца.

**Капітал гаспадарскай снасьці і машынаў.** Кожная машына ацэньваецца асобна паводле заплачанай за яе цаны пры куплі і ад гэтай цаны, што год адыймаецца прыблізна 5—10 прац. з пачатачнай вартасьці. Уся снасьць меншая ацэньваецца палавінай цаны заплачанай: „страта“ на снасьці новай выраўніваецца пры гэтым „зыскам“ на снасьці старой. — Ня можна сюды запісаваць снасьці і машынаў, якія служаць толькі прыватным патрэбам гаспадара, напр. „сьвяточная“ каламажка, вопратка, машына да шыцьця і г. д.

**Абаротны капітал.** Належаць сюды, як ведама: усе рачовыя запасы, пазыкі і грашавая гатоўка. Запасы ў сьвірнах і гумнах найлепш аблічаць пры помачы вагі, а дзе гэта аказалася-б немагчымым, там прыходзіцца аблічаць вагу запасаў з іхняга абыйма. Так напр, ведама, што 1 куб. мэтр добрай азімай пшаніцы (зерне) важыць прыблізна 770 клг., жыта — 720 клг., ячменю — 710 клг., аўса — 450 клг., вікі—

800 клг., бульбы — 670 клг., буракоў кармовых — 600 клг., буракоў цукровых — 685 клг., сена мурожнага (добра ўтаптанага) — 86 клг., канюшыны — 88 клг., саломы азімай нявязанай — 65 клг., саломы яравой — 55 клг., саломы азімай вязанай — 80 клг., гарохвінаў і інш. матыльковых — 50 клг., гною хляўнога сьвежага — 720 клг., напалову перапрэўшага — 750 клг., добра перапрэўшага — 840 клг.

Сьпісваючы, хто што вінават, трэба канешна кожны доўг запісаць асобна, паясьняючы пры гэтым, зашто гэты доўг належыцца, напр. за праданае парасё, за лён, за зааранье суседу поля і г. д. Сюды так-жа належаць усякія паі ў коопэратывах Ня можна аднак да гэтых „запасаў" упісаць цэнныя паперы ці гатоўку зложаную ў банках. Грашавая гатоўка гэта тая часьць грошаў, якая ў дзень сьпісваньня інвэнтуры ёсьць на руцэ і можа быць ужыта паводле волі гаспадара.

### *Актыўны капітал.*

Калі цяпер усе пералічаныя гатункі землябскіх капіталаў грунту, мэліорацыяў, будынкаў, расьлінаў, жывёлы, снасьці й машынаў і капітал абаротны злучым (злічым) у адно, дык атрымаем адзін агульны капітал актыўны; паказвае ён усё, што ў гаспадарцы ёсьць і што да яе належа, хоць знаходзіцца нейдзе ўвонках яе (пазычана).

### *Пасыўны капітал.*

У гаспадарцы, акрамя капіталаў уласных, ёсьць яшчэ капіталы часова пазычаныя ці ўзятыя скульнебудзь на доўг (на крэдыт). Да гэтай групы землязроб. капіталаў належаць так-жа і працэнты ад пазычак ці неаплачаных даўгоў, але толькі заўсяды такіх, якія былі ўзяты на вядзеньне гаспадаркі, а не даўгоў прыватных (напр. лячэньне, кравец, шавец). — Усе гэтыя даўгі і забавязаньні злічаныя разам даюць капітал пасыўны.

### *Чыстая землярабская маемасьць.*

Калі ад злічанай агульнай сумы капіталу актыўнага адлічыць такую-ж суму капіталу пасыўнага, дык атрымаем розьніцу, якую называем чыстай землярабскай маемасьцю. — Раўнуючы чыстую землярабскую маемасьць на пачатку году, з такою-ж маемасьцю пры канцы году, пазнаем на колькі гэта маемасьць павялічылася ці паменшылася.

Урэшце заўвага чыста тэхнічная: інвэнтура састаўленая пры канцы аднаго гаспадарскага году можа служыць як пачаткавая інвэнтура году наступнага: яго трэба толькі перапісаць з кнігі „старой" у „новую".

Спосаб запісваньня ўсіх капіталаў так ясны з далучаных аркушоў, што іх асобна тут апісваць няма патрэбы.

# Што чуваць на сьвеце

## На Далёкім Усходзе грыміць

Хоць японцы ўжо два тыдні быццам забралі кітайскую сталіцу Нанкін, то аднак у горадзе ёсьць яшчэ каля 20 тыс. кітайскага войска, якое далей трывожыць японцаў. Незалежна ад гэтага японцы далей ідуць углыб Кітаю, не напатыкаючы на большы адпор кітайцаў. Затое горш укладаюцца адносіны Японцаў з Англіяй і Злучанымі Штатамі Паўн. Амэрыкі, якія на выпадак перамогі Японіі прадбачаць, што яна „загрозіць" іхнія інтарэсы. Як там будзе далей, ведаць цяжка. Тымчасам-жа як Амэрыка так і Англія выслалі на японскія і кітайскія воды шмат сваіх ваенных караблёў. Ня трудна дагадацца, што пры гэткай атмосфэры можа хапіць малой іскрачкі, каб запаліць пажар на цэлы сьвет.

## Інакш у Эўропе.

Падчас, калі адносіны на Далёкім Усходзе што раз больш напружваюцца, у Эўропе можна заўважыць нешта адваротнае: Францыя пачынае гаварыць з Нямеччынай, у хуткім часе маюць пачацца гутаркі Нямеччыны з Чэхаславаччынай і проста не да веры выглядае вестка, што быццам падгатаўляюцца гутаркі Нямеччыны з... Саветамі. Колькі ва ўсім гэтым праўды, сказаць тымчасам цяжка. У кожным разе фактам ёсьць, што б. прэм'ер Францыі Фляндэн быў нядаўна ў Бэрліне, гдзе адначасна вёў перагаворы з нямецкай прэсай аб ненападаньні іншы высокі францускі ўрадавец. Аб хуткіх-жа гутарках Чэхаславаччыны з Нямеччынай прынясло вестку „Česke Slovo" — орган партыі прэзыдэнта Бэнэша.

Для сяньняшняга чалавека ўсё гэта здаецца непраўдападобным дзівам. У жыцьці аднак усё магчыма.

## Пакінула Лігу Народаў.

Аб тым, што ня можна лішне многа пакладаць надзеяў на гладкае ўспакаеньне палітычных забурэньняў у Эўропе, паказвае найнавейшы паступак Італіі, якая нядовячы выступіла з Лігі Народаў. Прад гэтым яшчэ з тэй-жа Лігі выступіла Нямеччына і Японія. У кожным з гэтых выпадкаў Ліга Народаў была нявыгаднай для захопніцкіх апэтытаў: яна ганіла Японію за ейны разбой у Манджурыі і Італію -за Абісынію. Італіі не хацелася пакідаць Лігі. Прыкрываючыся „міралюбнымі" імкненьнямі, яна цярпліва чакала цэлыя гады, каб Ліга прызнала Абісынію за ёй. І калі бачыла, што гэтага бадай не дачакаецца, дык не аставалася нічога іншага, як бразнуць дзьвярыма й выйсьці. Ці на гэтым кончыцца? Паза Лігай сягоньня апынуліся Японія, Нямеччына і Італія, а загранічныя газэты што раз галасьней паказваюць, што ў іхнія сьляды быццам пойдзе і Польшч.

## Людэндорф памёр.

20 г. м. у Мюнхэне (Нямеччына) памёр генэрал Людэндорф, які падчас Сусьветнай вайны быў галоўным памацнікам нямецкага галоўнакамандуючага маршала Гіндэнбурга. Калі ўвосені 1918 г. выбухла ў Нямеччыне рэвалюцыя, дык Людэндорф быў уцёкшы заграніцу, скуль пасьля вярнуўся і пачаў працу палітычную, а апошнім часам, не бяз уплыву свае жонкі, пачаў нават цікавіцца пытаньнямі філёзофска-багаслоўскімі, прапаведуючы... старанямецкае паганства. У палітыцы Людэндорф быў староньнікам саюзу з Расеяй. Трэба сказаць аднак, што на колькі ў справах вайсковых Людэндорф быў прызнаным аўторытэтам, на гэтулькі палітыка ягоная, а тымбольш „рэлігія" зусім не ўдаваліся. Памёр Людэндорф у бальніцы гад апекай.. каталіцкіх манашак, маючы 72 гады. З вышэйшых нямецкіх кіраўнікоў сусьветнай вайны астаўся жывым яшчэ фон Макеньзэн і сам кайзэр Вільгэльм II.

## У Саветах.

У Саветах ужо па выбарах. Што гэта за выбары, сягоньня мусіць ніхто не даведаецца. Француская газэта „Republique" называе іх „блюфам" (абманам). Бо якія-ж гэта — кажа — выбары, калі выбаршчык меў толькі аднаго кандыдата?!—Аб характары выбараў сьведчыць так-жа й склад новавыбранай Рады: 176 вышэйшых чыноўнікаў, 67 вышэйшых афіцароў, 43 прадстаўнікі промыслу й чыгунак, 36 фабрычных работнікаў, 48 прадстаўнікоў вясковай адміністрацыі, 35 калгаснікаў, 23 прадстаўнікоў навукі і па 1—2 прадстаўнікоў ад прафэс. саюзаў, бязбожнікаў камсамолу...

20 г. м. былі расстрэляны як „шкоднікі народу" Енукідзэ, б. сэкрэтар Усесаюзнага Выкан. К-ту, Кам.-партыі, Карахан, б. Савецкі дыплёмат у Польшчы, Турцыі і інш. Паясьняць гэтага ня трэба.

## На гішпанскіх палёх.

Хоць галоўная ўвага сьвету зьвернена цяпер на Далёкі Ўсход, то аднак у Гішпаніі ўсё яшчэ супакою таксама няма. Урад гішпанскі перанёсься ў сталіцу Каталёніі Барсэлёну, якую лётчыкі генэрала Франко часта абсыпаюць сьмерцяноснымі бомбамі. Не шкадуюць яны так-жа і Мадрыту, дзе ад паўстанцкіх бомбаў далей пустошацца будынкі і гінуць масова нічым нявінныя цывільныя людзі.

# Гаспадарская хроніка.

**Соль у Шчучыншчыне.** Пры капаньні студні ў Кульбачыне каля Шчучына, на глыбіні трох з паловаю мэтраў работнікі наткнуліся на колькі грудаў крыштальнае солі. Аказваецца, што гэта ў названым месцы ўжо ня першы выпадак. Адзін з знойдзеных цяпер кускоў солі вагай каля 5 клгр. выслалі ў Геолёгічны Інстытут у Варшаву, каб сьцьвердзіць, якая вартасьць гэтай солі і ці аплацілася-б вырабляць яе фабрычным спосабам.

**Жалезная руда і сьлюда на Палесьсі.** У 14-цёх кілёмэтрах ад Пінска, у ваколіцах в. Каладзеевічы, знайшлі значныя запасы жалезнай руды. Блізу адначасна з гэтым недалёка ад вёскі Бродніца, знайшлі польны шпат, у ямім аказалася шмат сьлюды.

**Абніжка цэнаў каініту.** Паводле новага цэньніка штучных гнаёў, з цэнамі абавязуючымі ад 1 лістапада, 10 прац. каініт абніжыўся ў цане больш як на 10 проц., 12-працэнтны — на 11.9 проц., а 14-працэнтны — на 17.2 проц.

Азотныя гнаі, паводле фабрычнага паведамленьня, на зімова-вясьняны сэзон 1937-38 г. таксама абніжаюцца, але на колькі працэнтаў — яшчэ няведама.

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *21.XII.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . . | 22.00—23.00 |
| Пшаніца . . . . . | 26.50—27.75 |
| Ячмень . . . . . . | 17.25—18.75 |
| Авёс . . . . . . . | 19.50—22.00 |
| Грачыха . . . . . | 17.25—17.75 |
| Мука пшанічная . . | 24.00—43.00 |
| Мука жытняя . . . | 24.50—35.00 |
| Мука жытняя разовая | 24.50—25.00 |
| Віка . . . . . . . | 19.00—20.00 |
| Лубін сіні . . . . . | 13.75—14.25 |
| Семя лянное Ь. 90% | 44.00—44.50 |
| Лён трапаны, Валож. | 1480—1520 |
| Лён трапаны, Гародзей | 1800—1840 |
| Лён трапаны Трабы . | 1480—1520 |
| Лён трапаны, Мёры | 1350—1380 |
| Лён часаны Гародзей . | 1980—2020 |
| Кудзеля Гародзейская . | 1480—1580 |

**Малочнае,** *15.XII.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | 3.60—3.70 |
| „ „ дэталь | —4.00 |
| Масла сталовае гурт . | 3.50—3.60 |
| „ „ дэталь | —3.90 |
| Сыр эмэнталь гурт. . . | —3.00 |
| „ „ „ дэталь | —3.60 |
| Сыр літоўскі гурт . . . | 2.00—2.40 |
| „ „ дэталь | 2.30—2.80 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 6.90—7.80 |
| „ ў дэталю за штуку | 12—14 гр. |

# Што пісалася аб гаспадарцы ў „САМАПОМАЧЫ“ за 1937 г.

## I. Эканоміка, аграрная палітыка.



## II. Польная гаспадарка, угнаеньне.



## III. Жывёлагадоўля, паша.



## IV. Агародніцтва і садаводзтва.



## V. Пчалярства.



## VI. Хатняя гаспадарка і розныя.



## Як жывуць людзі.

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*



# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

— Беларускі Канцэрт. Сёлетні восенскі беларускі канцэрт у Вільні мае сваю даволі доўгую гісторыю. Беларускай песьняй хацелі Віленскія Беларусы адзначыць Дзень Беларускай Культуры, які быў назначаны на дзень 28 лістапада. На жаль, адміністрацыйныя ўлады (старасства) гэтае сьвяткаваньне забаранілі. Прасілі тады Беларусы ў тых-жа ўладаў дазволу на сам толькі канцэрт на той самы дзень 28 лістапада, але й гэтым разам, замест дазволу, дачакаліся забароны.

Шчасьлівейшымі аказаліся беларускія студэнты, якім улады Віленскага унівэрсытэту пазволілі ў унівэрсытэцкай залі Сьнядэцкіх наладзіць канцэрт беларускай песьні ў нядзелю 12 г. м.

Выступалі: Беларускі Хор Рыгора Шырмы і тэнор Міланскай Опэры Міхал Забэйда. Абодвух беларускай публіцы і чытачом беларускіх газэт прадстаўляць ужо ня трэба. Даволі зазначыць, што абшырная заля была поўная народу. Вялікая шкада, што Беларусам у Польшчы не пазволена было сёлета адзначыць Дня свае нацыянальнае культуры. Тым даражэйшай ёсьць і астанецца свая народная беларуская песьня.

— Водгукі „Бел. Крыніцы". 14 г. м. у Віленскім Акружным Судзе мелася разглядацца справа рэдактара А. Дасюкевіча і выдаўца А. Шутовіча абвінавачаных у сувязі з апошняй канфіскатай „Беларускай Крыніцы", пасьля каторай была яна спынена. З прычыны дамаганьняў абаронцы абвінавачаных, адв. Б. Аляхновіча, Суд расправу адлажыў дзеля далучэньня да актаў гэтай справы копіяў прысуду ў справах ранейшых канфіскатаў „Бел. Кр.", якімі рэдактар гэтага часапісу быў апраўдываны.

— Сьмерць А. Бычкоўскага. У першых днях лістапада даляцела ў Вільню з Варшавы сумная вестка аб сьмерці выдатнага прадстаўніка тамашняй беларускай калёніі адваката Адама Бычкоўскага. Нябожчык паходзіў з Сакольшчыны. З беларускім рухам спаткаўся йшчэ задоўга перад вайной у нелегальным гуртку беларускай вучнёўскай моладзі ў Горадні, пад кірункам кс. Фр. Грынкевіча, сягоньня таксама ўжо нябожчыка. Ад гэнага часу і да сьмерці нябожчык цэлы час быў у лучнасьці з Беларусамі і як толькі мог стараўся ўспамагаць беларускую справу. Быў ён між іншым і акуратным чытачом „Самапомачы".

Вечная Яму Памяць!

— Беларускія грамафонныя плíткі, аб выхадзе ў продаж якіх мы ў сваім часе пісалі, маюць вялікі попыт як у краю, так і заграніцаю, скуль усё часьцей апошнім часам прыходзяць да нас пісьмы з запытаньнем, дзе гэтыя пліткі можна дастаць. Ня могучы на гэтыя пытаньні адказваць кожнаму паасобку, выясьняем, што насьпяваныя дагэтуль М. Забэйдам грамафонныя пліткі выдала фірма „Одэон" (Odeon). Гэта фірма мае свае аддзелы і прадстаўніцтвы па цэлым сьвеце і да гэтых аддзелаў трэба ўсюды беспасярэдна зьвяртацца: там можна ўсё дастаць найтаней. Пры адначасным закупе больш грамафонных плітак фірма дае ўступства.

Адначасна паведамляюць нас, што ўдача першага выпуску беларускіх народных песьняў на грамафонных плітках захвоціла фірмы да найграньня дальшых беларускіх песьняў, гэтым разам у выкананьні ня толькі на адзін голас — як дагэтуль, але і ў выкананьні харавым. Дагэтуляшнія ўдачы беларускіх харавых прадукцыяў беспасярэдніх гэта найлепшаю зарука, што пліткі гэткія былі-б вельмі ўдачныя і мелі-б запэўнены рынак збыту.

## У Палякоў.

— Развал у абшарнікаў. Афіцыяльным павадыром польскіх абшарнікаў, якія пайшлі ў сваім часе на ўгоду з санацыяй, быў цэлы час князь Януш Радзівіл. Таму ўсе зьвярнулі ўвагу на той факт, што на апошнім зьезьдзе асадніцкім старшынёй выбраны быў не дагэтуляшні кн. Я. Радзівіл, а граф Бніньскі. Ацэніваецца гэта як паварот абшарнікаў у бок „фронту Морж" і правага крыла эндэкаў. З гэткіх парадкаў быццам не здаволены абшарнікі з Віленшчыны і Наваградчыны: маюць яны быццам выйсьці з агульнае арганізацыі польскіх абшарнікаў і заснаваць сваю з графам Гуттэн-Чапскім і Віленскім „Słowo'm" на чале.

— Да пары збан ваду носіць. Толькі па колькі гадох па сьмерці санацыйнае партыі ББ вылазяць ейныя грашкі. Гэтымі днямі ў Гдыні кончыўся судовы працэс б. паветавага старасты Чарноцкага. Вот-жа на гэтым судзе сьведкі паказалі, як палітычная арганізацыя ББ „працавала" за казённыя грошы. Каб пакрыць гэтыя расходы, староста краў пакуль удавалася казённыя грошы, а цяпер — папаўся.

## З ВІЛЬНІ.

— Вялікі судовы працэс. Ад 15 да 21 г. м. у Віленскім Акружным Судзе разьбіралася справа палітычнай групы Дэмбінскага, б. рэдактара газэты „Po prostu" і „Karta". Цікавы гэты працэс з дзьвюх прычын: 1. ён вывалак на публічны разбор справу беларускую, і 2. што ані пракурор не жадаў ад суду засуджэньня, ані падсудныя не прасілі звальненьня.

Суд зьмяніўшы кваліфікацыю абвінавачаньня, Дэмбінскага і Ендрыхоўскага засудзіў па 4 гады турмы і ўтрату грамадзкіх правоў. Іншых падсудных зволькіў.

## Усячына.

— 750 ўгодкі „Слова аб палку Ігараве". У 1938 г. прыпадаюць 750-ыя ўгодкі старога памятніка нашай літаратуры „Слова аб палку Ігараве". Аўтор гэтае паэмы няведамы, годам-ж напісаньня яе рахуецца 1188 г. Рукапіс „Слова" быў знайдзены ў 90-тых гадох XVIII стагодзьдзя ў Яраслаўскім музэі. Рукапіс гэты згарэў у Маскве у 1812 г. і аб зьмесьце ягоным мы ведаем толькі з перадруку яго з 1800 г. Перадрук гэты зроблены быў пад загалоўкам „Гістарычная песьня аб паходзе на полаўцаў удзельнага князя Ноўгарад-Северскага Ігара Сьвятаславіча".

— Проціў Жэлігоўскага? Прамовай сваей у Сойме, аб чым „Самапомач" ужо пісала, ген. Жэлігоўскі быццам падражніў некаторых паслоў, так што яны меліся нават галасаваць проціў таго, каб Жэлігоўскі далей быў старшынёй соймавай вайсковай камісіі. У канцы аднак усе тымчасам пагадзіліся. Ці на доўга?



„Самапомач" выходзіць 10 і 25 кожнага месяца.

ПАДПІСКА на „Самапомач": да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым перараказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні, Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС"